












**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

13 снежня 2000 года
Цана 95 рублёў

№ 50 (2712)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


**АКТУАЛЬНА**



## VIP-ПАРАД У МІНСКУ

На рубяжы восені і зімы Мінск апынуўся ў эпіцэнтры палітычнага жыцця Саюза Незалежных Дзяржаў: тут адбыўся саміт кіраўнікоў краін на вышэйшым узроўні. Прэзідэнты, прэм'еры, міністры, парламентарыі... Ужо не прыпомніць такога выпадку, каб у СНД на адзінку плошчы збіралася столькі VIP-асоб, як на той час у беларускай сталіцы. Толькі прэзідэнтаў адзінаццаць прыехала.

30 лістапада ў мінскай штабкватэры СНД прайшлі сустрэчы міністраў замежных спраў і пасяджэнне Савета кіраўнікоў урадаў краін-удзельніц, а таксама адбылося пасяджэнне Вышэйшага Дзяржаўнага Савета Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, дарэчы, ужо трэцяе за гэты год.

Але галоўная падзея разгарнулася першага снежня — адкрылася пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц Садружнасці. Абмяркоўвайся шэраг пытанняў, важных для ўсіх бакоў. Першым у парадку дня пазначалася стварэнне Антытэрарыстычнага цэнтра дзяржаў — удзельніц СНД. Была нададзена значная ўвага і блоку пытанняў, што тычацца ўрэгулявання міжнацыянальных канфліктаў і міратворчай місіі Расіі ў Абхазіі, вызначаны прыярытэты ў супрацоўніцтве ў галіне процідзеяння легалізацыі ("адмыванню") даходаў, атрыманых незаконным шляхам, разгледжана праблема фарміравання зоны свабоднага гандлю. Зразумела, прайшло і шмат двухбаковых сустрэч.

"Мы цалкам задаволены вынікамі мінскага саміта, — адзначыў расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін. — Намі дасягнуты прынцыповыя дамоўленасці аб прадаўжэнні курсу на паглыбленне практычнага ўзаемадзеяння краін — удзельніц СНД".

Заканчэнне на 2-й стар.

### ДА КАНЦА ГОДА ПЛАНУЕЦЦА ЧАСТКОВА ЎВЕСЦІ Ў ЭКСПЛУАТАЦЫЮ НОВЫ ВАКЗАЛЬНЫ КОМПЛЕКС У МІНСКУ

● **Наталля УЛАН**, БелТА.

У гэта маштабнае будаўніцтва, паводле даных Беларускай чыгункі, за 10 месяцаў сёлетняга года ўкладзена больш як 8 мільярдаў рублёў. З іх прыблізна 5,5 мільярда — з рэспубліканскага бюджэту. Астатняе фінансаванне праведзена чыгуначнікамі.

Завяршыцца будаўніцтва новага вакзальнага комплексу ў Мінску ў 2001 годзе, лічаць спецыялісты. Аднак ужо яго частковы ўвод дасць магчымасць значна разгрузіць звычайна перапоўнены пасажырамі стары будынак і плошчу перад ім.

**СПОРТ**

**ФРЫСТАЙЛ.** На этапе Кубка свету ў канадскім Блэккомбе залаты медаль у акрабатычных скачках заваявала беларуска Ала Цупер.

**НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** Заключны матч групавога турніру супердывізіёна Еўралігі супраць сапернiц са Славакіі вельмі добра правялі сёстры Паўловіч і Т. Лагацкая. Беларуская зборная перамагла з лікам 3:1 і далей паявдзе барацьбу за 7—9-е месца.

**БІЯТЛОН.** У італьянскім Антхольцэ эстафетамі завяршыўся першы этап Кубка свету. Мужчынская зборная Беларусі заняла даволі высокае 5-е месца, а жаночая — 8-е. Пры добрай меткасці нашы саступалі ў хуткасці на дыстанцыі. Перамаглі ж у гонках чэхі і нарвежкі.

**ШАХМАТЫ.** На чэмпіянаце свету мінчанін Аляксей Аляксандраў пасля перамогі ў другім крузе над Уладзімірам Акапянам, на жаль, у трэцім двойчы ўступіў расіяніну Яўгену Барэеву. Выбыла з турніру і Раіса Эйдэльсан, якая ўступіла югаслаўцы Алісе Марыч.

Падрыхтаваў
**Міхаіл МАЗАКОЎ.**

**ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ**

### ЗАЛАТЫ ДУБЛЬ

Зараз па шляху жыцця капітан вядомай футбольнай каманды "Славія" з Мазыра Дзмітрый Карсакоў пойдзе разам са сваёю палавінкаю. Завяршаючы футбольны сезон 2000 года, Дзмітрый змог не толькі прывесці да перамогі ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі сваю каманду, але і скарыць сэрца юнай гамяльчанкі Вольгі Цюцінай.



БелТА.




## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА Ў ДЫЯЛОГУ ЦЫВІЛІЗАЦЫЙ

Нагадаем, што трэці Міжнародны кангрэс беларусістаў распачаў сваю работу 21 мая 2000 года першай сесіяй: "Беларусь і сусветная супольнасць: узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне культур (Да 2000-годдзя хрысціянства)". Як меркавалася, 5—6 снежня ў Мінску прайшла другая сесія кангрэса — "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый". У ёй прынялі ўдзел беларусісты з 12 краін, у тым ліку — Венгрыі, Вялікабрытаніі, Польшчы, Расіі, Швейцарыі, Японіі, Літвы, Чэхіі, Славакіі і інш. Прадстаўнікі яшчэ чатырох краін — Германіі, Канады, Францыі, ЗША — даслалі свае даклады.

Ад імя сузаснавальнікаў МАБ прысутных віталі прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Вайтовіч, прадстаўнікі Міністэрстваў адукацыі, замежных спраў, культуры. Яны адзначылі, што менавіта МАБ можа найбольш пераканаўча заявіць аб удзеле Беларусі ў дыялогу цывілізацый. Але для гэтага трэба плённа працаваць, мацаваць інтэлектуальную і матэрыяльную базу.

— Не можа не бянтэжыць, што ўвесь свет бачыць небяспеку ў глабалізацыі не толькі эканомікі, але і культуры, — зазначыў ва ўступным слове старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс. — Мы павінны ведаць: што нясе глабалізацыя Беларусі, ці будзем мы толькі спажыўцамі глабальнай культуры? Як наша цывілізацыя павінна ўдзельнічаць у дыялогу?

Пастаўленыя пытанні патрабавалі адказу і яшчэ на адно: а ці існуе беларуская цывілізацыя? У існаванні французскай, літоўскай, польскай — ніхто не сумняваецца. Як жа вызначыць уплыў беларускай?

Як адзін з аргументаў "за" быў прадстаўлены сігнальны выпуск першай часткі даведніка "Хто ёсць хто (Беларусы ў свеце)". Ён сведчыць, што звыш 500 выдатных асоб дадзена Беларуссю толькі блізкаму замежжу. Не менш і краінам далёкага замежжа. Беларусы сталі ля вытокаў многіх пачынанняў, напрыклад, і ў ЗША, і ў Ізраілі. Менавіта беларусы свaёй талерантнасцю стварылі ўмовы для развіцця яўрэйскай культуры, якая аказалася запатрабаванай у час стварэння Дзяржавы Ізраіль.

Удзел Беларусі ў дыялогу цывілізацый у ходзе дыскусій і выступленняў на кангрэсе знайшоў цікавыя і разнастайныя пацвярджэнні. Думаецца, што да іх ліку можна аднесці і той факт, што адбываецца прыкметнае амаладжэнне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Толькі за апошнія паўгода колькасць яе сяброў павялічылася да 730.

Заканчэнне на 3-й стар.

# VIP-ПАРАД У МІНСКУ



*Уладзімір ПУЦІН і Аляксандр ЛУКАШЭНКА задаволены перагаворамі.*

Пачатак на 1-й стар.

Вялікую цікавасць беларускай грамадскасці выклікала асабістая сустрэча У. Пуціна і А. Лукашэнкі, на якой абмяркоўваліся наступныя крокі ў накірунку інтэграцыі Беларусі і Расіі. Як мы ўжо паведамлялі, незадоўга да гэтага было абвешчана аб намеры ўвядзення з 2005-га года на тэрыторыі двух краін адзінага плацежнага сродку — расійскага рубля і заснаванні ў сувязі з гэтым адзінага эмісійнага цэнтра. Зразумела, такія радыкальныя рашэнні выклікаюць шмат прынцыповых пытанняў. І найпершае з іх: што застанецца ад эканамічнага суверэнітэта Беларусі, калі краіна не будзе мець уласных грошай і ўласнага "друкарскага станка"?

Але тым не менш, згодна з афіцыйнымі паведамленнямі, прэзідэнты знайшлі агульную мову. Пазней У. Пуцін заявіў, што пры ўвядзенні адзінай валюты пэўная доля суверэнітэту ўсё ж такі давядзецца паступіцца. Ён, праўда, не ўдакладніў, каму, але, здаецца, адказ ляжыць на паверхні. А. Лукашэнка, у сваю чаргу, на гэты конт нічога не сказаў — не пагадзіўся, але і не запярэчыў, аднак у якасці Старшыні Вышэйшага Дзяржсавета паставіў свой подпіс пад пастановамі "Аб фарміраванні адзінай таможнай прасторы і стварэнні адзінай сістэмы тарыфнага і нетарыфнага рэгулявання Саюзнай дзяржавы" і "Аб рабоце па ўвядзенню адзінай грашовай адзінкі і фарміраванню адзінага эмісійнага цэнтра". Акрамя таго, А. Лукашэнка выказаў падзяку расійскаму кіраўніцтву за прадастаўленне Беларусі стабілізацыйнага крэдыту ў памеры, эквівалентным 200 мільёнам долараў ЗША. Няшмат, але, мабыць, сёння для Беларусі і гэта грошы.

Які атрымаецца вынік, час пакажа даволі хутка. Але ўжо сёння можна паспачуваць няшчаснаму беларускаму рублю, ахвяры "светлай будучыні".

**Галіна БРАТКО.**

## МЕРКАВАННЕ

*Сёлета адбыліся дзве значныя выставы: Міжнародны кніжны кірмаш у Франкфурце-на-Майне і чарговая Міжнародная выстава "Прэса-2001" у Маскве. Непасрэдны ўдзел у іх прыняла Лілія АНАНІЧ, начальнік інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення Дзяржкамітэта па друку Беларусі.*

# ПРЭСА БЕЛАРУСІ ЗА МЯЖОЙ



*— Лілія Станіславаўна, якія ўражанні ад выставы ў Франкфурце-на-Майне?*

— Гэта вельмі вядомы кніжны кірмаш, ён праводзіцца штогод. Нягледзячы на тое, што кожны год там экспануецца стэнд "Беларуская кніга", беларуская прэса была прадстаўлена ўпершыню. Пры тым інфармацыйным вакууме, які існуе, мы палічылі важным скарыстаць магчымасць і паказаць беларускую прэсу, а праз яе падрабязней пазнаёміць з Беларуссю.

Беларусь была не адзінай краінай, якая прадстаўляла перыёдыку. Там можна было ўбачыць вядомыя ў свеце выданні, такія, як "Нью-Йорк таймс", "Нойес Дойчланд". Але гэтыя выданні прадстаўлялі сябе самі, а ў нашым выпадку дзяржава прадстаўляла газеты і часопісы. Адзначу, што была вялікая цікавасць да беларускай прэсы. Да нас падыходзілі дзеячы культуры, супрацоўнікі бібліятэк, а таксама тыя, хто выехаў з краін былога Саюза на жыхарства за мяжу. Многія задавалі пытанні наконт канкрэтных выданняў, распытвалі пра працэсы, якія адбываюцца на Беларусі, і мы з задавальненнем тлумачылі, што наша краіна жыве сваім насычаным жыццём.

*— Ці ёсць нейкія канкрэтныя вынікі ад гэтых сустрэч?*

— Нас заўважылі. Не паспелі вярнуцца ў Мінск, як ужо атрымалі ад дырэкцыі выставы запрашэнне на ўдзел у чарговым кірмашы. Перш за ўсё, спадзяёмся, што гэта выстава дасць магчымасць знайсці новых спажыўцоў выданняў. Мы падрыхтавалі падпісныя каталогі, куды ўвайшлі ўсе вядомыя беларускія газеты і часопісы, якія дапамогуць зацікаўленым падпісацца і атрымліваць выданні не па сістэме "Белпошты", а праз адрасную перасылку. Канешне, мы не спадзяёмся, што колькасць падпісчыкаў значна ўзрасце, але робім усё для таго, каб нашы выданні сталі больш даступнымі за мяжой.

*— На маскоўскай выставе таксама нешта карыснае зроблена ў плане распаўсюджвання нашых перыядычных выданняў?*

— У Маскве трэці раз была арганізавана выстава нацыянальнай прэсы, на якой мы прадставілі ўвесь спектр беларускіх выданняў, і дзяржаўных, і недзяржаўных. Крытэрый адбору — вядомасць у рэспубліцы і цікавасць для замежнага спажыўца. На нашым стэндзе былі прадстаўлены "Советская Белоруссия", "Белорусская деловая газета", "Звязда", "Народная газета", "Народная воля", "Культура", а таксама "Голас Радзімы", амаль усе часопісы, якія ў нас выходзяць: і старэйшыя, як "Полымя", і больш новыя, як "Мастацтва". Амаль 50 выданняў.

Усе краіны СНД адчуваюць праблемы інфармацыйнага забеспячэння, праблемы інфармацыйнай прасторы. Таму выстава ў Маскве — гэта магчымасць рэдакцыям газет і часопісаў паказаць сваё выданне, наладзіць супрацоўніцтва з замежнымі выданнямі. Плёнам такога інфармацыйнага абмену стала тое, што Дзяржкамдрук Беларусі накіраваў канкрэтныя прапановы шэрагу расійскіх рэгіёнаў — гэта Татарстан, Башкартастан, Ямала-Ненецкая, Ханты-Мансійская аўтаномныя акругі — аб падпісанні міжведамасных пагадненняў у галіне друку.

Шмат нашых землякоў жыве ў Расійскай Федэрацыі, і мы адчулі, што там ёсць патрэба ў інфармацыі непасрэдна з Беларусі. З Рэспублікай Татарстан на аснове такой узаемнай зацікаўленасці дасягнута пагадненне аб узаемадзеянні на міжведамасным узроўні — гэта і абмен дэлегацыямі журналістаў, і абмен інфармацыяй.

Беларускую прэсу ў Маскве, як кажуць, "адрывалі з рукамі", таму што купіць яе там немагчыма. Мы спадзяёмся, што цяпер, калі выраўноўваюцца курсы валюты, калі эканамічныя працэсы ўсталяваліся, будуць вырашаны пытанні распаўсюджвання беларускай прэсы.

Гутарыла **Таццяна КУВАРЫНА.**

## КОРАТКА

### НА БЕЛАРУСІ ЎСХВАЛЯВАНЫ ЗНІЖЭННЕМ ФІНАНСАВАННЯ ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ПРАГРАМ З БОКУ ААН

На Беларусі ўжо не першы год выклікае трывогу зніжэнне фінансавання "чарнобыльскіх праграм" у рамках ААН. Пра гэта на брыфінгу ў Мінску заявіў намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Сычоў.

Па яго словах, "нельга зводзіць чарнобыльскую праблематыку толькі да пытанняў закрыцця АЭС і забываць праблемы, якія звязаны са здароўем будучых пакаленняў".

Дыпламат прызнаў, што "пры існаванні ў свеце рэгіянальных канфліктаў і стыхійных бедстваў Чарнобыль адыходзіць у цень". Краіны-донары ААН у большай ступені зацікаўлены ў рашэнні пытанняў ядзернай бяспекі, у прыватнасці, закрыцця Чарнобыльскай АЭС і вырашэнні праблемы аб'екта "Укрыццё" ("саркафаг" над разбураным выбухам у 1986 годзе чацвёртым энергаблокам), — адзначыў А. Сычоў.

У пацвярджэнне таго, што "міжнародная грамадскасць стамілася ад Чарнобыля", ён спаслаўся на падрыхтаваны навуковым камітэтам ААН даклад па "чарнобыльскай праблематыцы". У прыватнасці, у ім сцвярджаецца, што катастрофа на ЧАЭС "не мае негатыўных наступстваў для пражывання людзей на забруджаных тэрыторыях".

Беларускі бок прыклаў шмат намаганняў, каб "выкінуць з даклада зробленыя экспертамі ААН ацэнкі" і прыняць рэзалюцыю, у якой "закладзена неабходнасць удзелу экспертаў Беларусі, Украіны і Расіі пры падрыхтоўцы падобных дакладаў". А. Сычоў расказаў аб выкананні прынятай у рамках ААН "арганізацыйнай праграмы" па аказанню дапамогі насельніцтву, якое жыве на забруджаных тэрыторыях. Але пад фінансаванне 70 праектаў для Беларусі, Украіны і Расіі было сабрана ўсяго 3,5 мільёна долараў ЗША, што гаворыць "аб немагчымасці выканання прынятай арганізацыйнай праграмы", — падкрэсліў намеснік міністра.

Па яго словах, беларускія ўлады спадзяюцца на паступленне сродкаў ад канкрэтных краін-донараў, няўрадавых арганізацый, прадстаўнікоў прыватнага сектара.

### У ГЭТЫМ ГОДЗЕ САНАТОРНА-КУРОРТНАЕ АЗДАРАЎЛЕННЕ ПРАЙШЛІ АМАЛЬ 500 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК

Тыя, хто купляў пуцёўкі на санаторна-курортнае лячэнне, аддавалі ў гэтым годзе перавагу беларускім здраўніцам. Пра гэта паведаміў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленню і санаторна-курортнаму лячэнню Уладзімір Рыжанкоў.

Па яго словах, летняе санаторна-курортнае аздараўленне сёлета ў Беларусі прайшлі 469 тысяч чалавек.

Як паведаміў У. Рыжанкоў, за 2 гады колькасць пуцёвак, якія выдзяляліся цэнтрам на 1 000 працоўных месяцаў, павялічылася з 12 да 25. Па яго словах, 24 працэнты ад агульнай колькасці аздараўленчых пуцёвак выдзяляецца сельскім працаўнікам, 28 працэнтаў — работнікам прамысловых прадпрыемстваў.

Шэраг праблем Рэспубліканскага цэнтра, лічыць яго дырэктар, звязаны з недастатковым фінансаваннем: калі ў 1999 годзе цэнтр супрацоўнічаў з 29 санаторыямі Украіны і Расіі, то ў гэтым годзе — толькі з 17.

Падрыхтавала **Алена РУДЗЬ.**

## КРОПКА НА КАРЦЕ



# ВЁСЦЫ ЧЭРСК – 300 ГАДОЎ

● **Раман КАБЯК**, БелТА.

Трохсотгадовы юбілей з дня заснавання вёскі Чэрск Брэсцкага раёна адзначылі яе жыхары. Па адным з паданняў, яе заснаваў паранены чэркес, які паставіў тут капліцу. Потым была пабудавана званіца і Міхайлаўская царква ў 1701 годзе. Зараз гэта гісторыка-культурны помнік. У дзень свята ў царкве адбыўся малебен, а потым урачыстасці працягваліся на вуліцах вёскі.

Сям'я Уладзіміра СТАДНІКА жыве ў Чэрску. Галава сямейства служыць пагранічнікам. Мяжа ад вёскі за некалькі кіламетраў. Жонка Святлана займаецца выхаваннем дзяцей. Іх дачцэ Вікторыі адзін год і адзін месяц, а сын Дзмітрый, якому толькі месяц ад роду, — самы юны жыхар Чэрска.



# ПРАВА НА ГРАМАДЗЯНСТВА

Замежжа... Здаецца, там, дзе мы ніколі не былі, усё паіншаму. Намнога лепш. А як жа тады: "У гасцях добра, а дома лепш"? Вось і атрымліваецца, што пошукі лепшай долі або хаця б лепшых умоў жыцця прыводзяць чалавека да рашэння складаных праблем.

Дэмаграфічная карціна, якая характарызуе сучасны стан народанасельніцтва Беларусі, можа падацца, на першы погляд, засмучальнай. З аднаго боку, наступствы чарнобыльскай катастрофы прывялі да рэзкага падзення ўзроўню працягласці жыцця, а значыць, да натуральнага памяншэння колькасці насельніцтва, калі смяротнасць перавышае нараджальнасць. З другога — міграцыя. Многія жыхары рэспублікі па тых або іншых меркаваннях пакідаюць небяспечную ў экалагічным сэнсе Беларусь і эмігрыруюць хто ў Ізраіль, хто ў Канаду, ЗША... Ці ёсць мяжа такой страце?

Давайце паглядзім на гэтую праблему з іншага боку і звернемся да фактаў.

За апошнія гады ў адпаведныя дзяржаўныя інстанцыі паступілі тысячы заяў ад асоб, якія жывуць за мяжой, аб набыцці грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Геаграфія гэтых зваротаў разнастайная. Калі гаварыць пра колькасны бок пытання, то на падставе афіцыйных даных за 1994—2000 гады можна зрабіць вывады пра тэмпы і ўзроўневыя змяненні ў гэтым працэсе.

Так, за другую палову 90-х гадоў у выніку рэгістрацыі (артыкул 17.1 Закона аб грамадзянстве) набылі грамадзянства Рэспублікі Беларусь каля 115 тысяч чалавек. Страцілі за гэты ж час толькі чатыры тысячы. Праз асобую працэдуру разгляду спраў і Указ Прэзідэнта прыём у грамадзянства больш чым у чатыры разы перавысіў выхад з грамадзянства. Прычым, калі 1997—1998 гады "дэманстравалі" спад узроўню колькасных паказчыкаў, то апошнія два гады дзесяцігоддзя значна перавысілі мінулыя рэкорды і дазволілі гаварыць пра прагрэсіруючую тэндэнцыю ў набыцці грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Усяго за названы перыяд па гэтаму пытанню было разгледжана 174,5 тысячы заяў.

Больш таго, з 1998 года ў гэтым накірунку паспяхова рэалізаваліся міждзяржаўныя Пагадненні паміж Рэспублікай Беларусь і Казахстанам, Рэспублікай Беларусь і Украінай, па якіх афармленне дакументаў для набыцця грамадзянства было значна спрошчана. Гэтыя факты таксама адбіліся на колькасным росце жадаючых набыць беларускае грамадзянства. Напрыклад, тых, хто звяртаўся з Казахстана, было ў 10 разоў больш.

Дазвол на ўезд у краіну і прадастаўленне грамадзянства — справа нялёгкая. Паспяховы вынік залежыць ад адпаведнасці заканадаўчым актам, дамовам. Права на грамадзянства павінна быць абгрунтаваным. Аднак дзяржаўныя інтарэсы і патрэбы таксама павінны быць улічаны і аргументаваны ў рашэнні падобных спраў.

За мяжой у многіх краінах знаходзяцца прадстаўніцтвы і дыпламатычныя місіі Рэспублікі Беларусь. У іх звяртаюцца па тлумачэнні і кансультатыўную дапамогу.

Па просьбе нашых чытачоў у гэтым нумары мы пачынаем публікаваць адрасы пасольстваў і консульскіх службаў Рэспублікі Беларусь.

**Алена КОНАНАВА.**

**ПОСОЛЬСТВА, ПРЕДСТАВИТЕЛЬСТВА, КОНСУЛЬСКИЕ УЧРЕЖДЕНИЯ И ПОСТОЯННЫЕ ПРЕДСТАВИТЕЛЬСТВА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ЗА РУБЕЖОМ**

Посольство Республики Беларусь в Республике Австрия / Постоянное представительство Республики Беларусь при международных организациях в Вене / Делегация Республики Беларусь в ОБСЕ
Huttelbergtrasse 6, A-1140 Wien, Osterreich. *Тел. (8 10 431) 419 96 30*
*Факс (8 10 431) 419 96 30 30*
Советник по торгово-экономическим вопросам
*Тел. 419 96 30 15*

Посольство Республики Беларусь в Аргентинской Республике
Argentina, Buenos Aires, Cazadores 2166, CP 1428
*Тел.: 8 10 (54 11) 478 893 94*
*Факс: 8 10 (54 11) 478 823 22*

Посольство Республики Беларусь в Республике Болгария
1113, София, ж. к. Лозинец, ул. Кокиче, 20
*Тел. (8 10 3592) 963 30 61*
*Факс (8 10 3592) 963 40 23*

Посольство Республики Беларусь в Королевстве Бельгия / Представительство Республики Беларусь при Европейских Сообществах
Avenue Moliere 192, 1060 Bruxelles (Ixelles) Belgique
*Тел. (8 10 322) 340 02 70*
*Факс (8 10 322) 340 02 87*
Советник по торгово-экономическим вопросам
*Тел. 340 02 76*

Посольство Республики Беларусь в Соединенном Королевстве Великобритании и Северной Ирландии
6, Kensington Court, London, W85DL
*Тел. (8 10 4471) 937 32 88*
*Факс (8 10 4471) 361 00 05*
Первый секретарь по торгово-экономическим вопросам
*Тел. 938 16 33*

Посольство Республики Беларусь в Венгерской Республике
MTZ Hungaria KFT 1126 Budapest, Agardi ut 3/b
*Тел.: 810 (361) 214 05 53, 36 1 214 05 54*

Посольство Республики Беларусь в Социалистической Республике Вьетнам
11 Fl., 44B Ly Thuong Kiet str., Hanoi
*Тел. (8 10 844) 934 44 16*
*Факс (8 10 844) 934 44 17*

Посольство Республики Беларусь в Федеративной Республике Германия
Treptower Park 32, 12435 Berlin
*Тел. (8 10 49 30) 536 359 0, 536 359 16*
*Факс (8 10 49 30) 536 359 23, 536 359 24*

Отделение Посольства Республики Беларусь в Бонне
Fritz-Shaffer-Strasse 20, 53113 Bonn
*Тел. (8 10 49228) 201 13 10*
*Факс (8 10 49228) 201 13 19*

Посольство Республики Беларусь в Арабской Республике Египет
19-1 Kambiz str., Dokki, Cairo
*Тел. (8 10 2023) 337 57 82, 337 58 45*
*Факс (8 10 2023) 337 39 52*

Посольство Республики Беларусь в Государстве Израиль
2 Kauffman str., Tel Aviv 68012
*Тел. (8 10 9723) 510 22 36, 510 22 37*
*Факс (8 10 9723) 510 22 35*
Советник по торгово-экономическим вопросам
*Тел. 510 22 36, 510 22 38*

Посольство Республики Беларусь в Республике Индия
*Тел. (8 10 9111) 615 12 02*
*Факс (8 10 9111) 615 12 03*

Посольство Республики Беларусь в Иракской Республике
*Тел. 810 (964) 719 55 65.*

Посольство Республики Беларусь в Исламской Республике Иран
1, Azar st., Aban st., Shahid Taheri st., Zafaranieyh Ave., Tehran, P. C. 19887, Iran
*Тел. (8 10 9821) 270 88 29*
*Факс (8 10 9821) 271 86 82*

Посольство Республики Беларусь в Итальянской Республике
Via della, Alpi Apuane 16, 00141. Roma
*Тел. (8 10 3906) 820 81 41*
*Факс (8 10 3906) 820 02 309*

Посольство Республики Беларусь в Королевстве Швеция
18134 Lidingo/Stockholm Sweden
*Тел.: 810 (468) 731 57 45*

Посольство Республики Беларусь в Республике Казахстан
480020 г. Алматы, ул. Горная, 97 (48)
*Тел. (8 3272) 50 26 15*
*Факс (8 3272) 50 28 99*

Посольство Республики Беларусь в Объединенных Арабских Эмиратах
Villa 434, 26 th Stveet, Al-Rouda Avea AAE,
P. O. Box 30337 Abu Dhabi U.A.E.
*Тел.: 810 (971-2) 4453-399*
*Факс: 810 (971-2) 4451-131*

Посольство Республики Беларусь в Канаде
130 Albert Street, Suite 600, Ottawa, Ontario, K1P 5G4 Canada
*Тел. (8 10 1613) 233 99 94*
*Факс (8 10 1613) 233 85 00*

**Працяг будзе.**



# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА Ў ДЫЯЛОГУ ЦЫВІЛІЗАЦЫЙ



*Адам МАЛЬДЗІС, Вячаслаў ІГНАЦЕНКА, Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК у час адкрыцця выставы.*



*Ніл ГІЛЕВІЧ, Хведар НЮНЬКА (Літва), Аляксей КАЎКА (Расія).*



*Алег ТРУСАЎ і айцец Аляксандр НАДСОН (Вялікабрытанія).*

Пачатак на 1-й стар.

Створана Паўночна-амерыканская асацыяцыя беларусістаў.

Адна з высноў, да якой прыйшлі ўдзельнікі кангрэса, сфармулявана наступным чынам: трэба, каб чалавецтва зрабіла вывады з таго, што пакінула XX стагоддзе, і захавала культурную разнастайнасць. МАБ адказная за тое, каб беларуская мова захавалася і развівалася. У гэтым думка беларусістаў супадае з прынцыпамі UNESCO, якая заклапочана захаваннем культурнай разнастайнасці, бачыць у гэтым умову ўзаемаразумення ў свеце.

— Кожнага з вас мы ўспрымаем як пасла беларускай думкі, — звярнуўся да сяброў МАБ Іван Яновіч, намеснік старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі.

Работа другой сесіі кангрэса вялася па трох секцыях. Першая "Уклад беларускай культуры ў дыялог цывілізацый" — мела дзве падсекцыі: "Гістарычныя і культуралагічныя аспекты праблемы"— старшынствуючыя Мікалай Нікалаеў (Расія), Віталь Скалабан (Беларусь) і "Літаратуразнаўчы і мовазнаўчы аспекты праблемы" — старшынствуючыя Моніка Банкоўскі (Швейцарыя), Генадзь Цыхун (Беларусь). Пасяджэнні секцыі "Фарміраванне дзяржаўнасці і нацыянальнай свядомасці беларускага народа ў параўнанні і ўзаемадзеянні з аналагічнымі працэсамі ў суседніх краінах" вёў Леанід Лыч (Беларусь). Трэцяя секцыя сабрала тых, каго займае "Роля беларускай дыяспары ў дыялогу цывілізацый", — старшынствуючыя Аляксей Каўка (Расія) і Галіна Сяргеева (Беларусь). Яшчэ адна група навукоўцаў абмяркоўвала тэму "Дыялог як сродак гарманізацыі адносін паміж канфесійнымі і этнічнымі супольнасцямі Беларусі". Старшынствуючыя — Анатоль Грыцкевіч (Беларусь), Яўген Міранові (Польшча).

Адбыліся давыбары ў кіруючы орган МАБ. Туды ўвайшлі Францішка Сокалава (Чэхія) і Сільвія Сямакава (Славакія).

Матэрыялы кангрэса будуць выдадзены.

У час правядзення другой сесіі кангрэса ў Скарынаўскім цэнтры адкрылася выстава твораў мастакоў Вячаслава Ігнаценкі (Кішынёў) і Міхася Наўмовіча (Парыж).

**Ніна ЦІМАШОК.**



*Сакрат ЯНОВІЧ (Польшча) (злева на здымку) з удзельнікамі кангрэса.*



*Сяргей ПАНІЗЬНІК знаёміць з работамі мастакоў.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# ДЗЯРЖАВА і ДАБРАЧЫННАСЦЬ

*У 1997 годзе на Беларусі быў створаны Дэпартамент па гуманітарнай дзейнасці, напрамую падпарадкаваны Прэзідэнту краіны. На працягу трох гадоў уся гуманітарная дапамога, што накіроўваецца ў нашу краіну, кантралюецца гэтай установай. Тут не толькі займаюцца ажыццяўленнем дзяржаўнай палітыкі ў данай справе, уплываюць на стаўленне да Беларусі з боку замежных арганізацый, сусветнай грамадскасці, але і садзейнічаюць вызваленню гуманітарных грузаў ад мытных пошлін. Сам дэпартамент не мае паўнамоцтваў, каб раздаваць ільготы, даводзіцца звяртацца да Прэзідэнта краіны. Толькі так можна атрымаць рашэнне аб вызваленні ад мытных пошлін і падатку на дабаўленую вартасць.*

*Па ацэнках прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, у апошні час колькасць гуманітарнай дапамогі значна скарацілася. Прычынай гэтага большасць з іх называе ўмяшанне дзяржавы ў сферу гуманітарных ініцыятыў, бюракратычныя перашкоды.*

*Наколькі гэта адпавядае рэчаіснасці, у нейкай ступені высвятляе гутарка з намеснікам дырэктара Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасці Іяй МАЛКІНАЙ.*

***— Мяркуючы па назве, ваш дэпартамент займаецца не толькі гуманітарнай дапамогай?***

— Мы курыруем таксама аздараўленне дзяцей за мяжой па лініі грамадскіх арганізацый. Гэта супадае з нашай галоўнай мэтай — адстойваннем інтарэсаў Беларусі.

***— З якіх краін Беларусь атрымлівае гуманітарную дапамогу?***

— Нам дапамагаюць 28 краін. Першае месца займае Германія. Затым ЗША, Італія, Вялікабрытанія. Але сярод нашых партнёраў і менш заможныя, напрыклад, Лівія, Палесціна, Украіна...

***— Часта даводзіцца чуць, што колькасць гуманітарнай дапамогі значна скарацілася.***

— Статыстычныя даныя сцвярджаюць адваротнае. Вось лічбы. У 1998 годзе да нас паступіла гуманітарная дапамога на 35 мільёнаў долараў, а летась — на 41 мільён. Размовы пра памяншэнне дабрачыннасці я адношу да свайго роду спекуляцый. Дэпартамент не забараняе нікому працаваць. Але ўсялякая дзейнасць павінна адпавядаць нормам заканадаўства, якія існуюць не дзеля абмеркавання, а для выканання.

Колькасць замежных арганізацый, што працуюць у галіне гуманітарнай дапамогі, стабільная. Новых партнёраў з'яўляецца мала. Тлумачэнне простае. Асноўная прычына дабрачыннасці ў адрас нашай краіны — аварыя на ЧАЭС, ад якой пацярпела шмат насельніцтва. Але ж з 1986-га мінула ўжо 14 гадоў. Многае забылася і змянілася. Апошнія даследаванні паказалі, што па колькасці захворванняў шчытападобнай залозы, па анказахворваннях жыхары Віцебскай вобласці знаходзяцца не ў лепшым стане ў параўнанні з Гомельскай вобласцю, куды ідзе большасць гуманітарных грузаў. Па ўсёй Беларусі хварэюць людзі. Таму наша задача — інфармаванне пра сапраўднае становішча беларускіх рэгіёнаў, рэгуляванне патоку дапамогі.

На Беларусі шмат інтэрнатаў, дзе, пачынаючы ад сантэхнікі, заканчваючы мэбляй, — усё набыта на сродкі гуманітарнай дапамогі і выраблена сіламі валанцёраў. Напрыклад, Гразаўская школа-інтэрнат, якую адрамантавалі ірландцы. Зараз мы разглядаем непрыемную справу. У Магілёўскай вобласці ёсць Барсукоўская школа-інтэрнат, якая пры ўдзеле нямецкіх і англійскіх грамадскіх аб'яднанняў поўнасцю была адрамантавана. А цяпер яе перадаюць па іншаму прызначэнню. Гэтага, канешне, дапусціць нельга.

***— Якія захады павінен здзейсніць замежнік, які хацеў бы даслаць на Беларусь гуманітарную дапамогу?***

— Шмат кантактаў грунтуецца на асабістых знаёмствах. Але на Беларусі працуе нямала арганізацый, якія шукаюць замежных партнёраў. Дэпартамент таксама мае базу даных, і да нас заўсёды можна звярнуцца па інфармацыю.

Нельга проста так сабраць гуманітарны груз, прывезці яго на мяжу і чакаць беспярашкоднага праходжання. Абавязкова трэба мець партнёраў на Беларусі, якія чакаць афармлення, бо незадэкларавана. Таму мы рэкамендуем ва ўсім быць дакладнымі.

***— Колькі часу займае афармленне ўсіх папер?***

— Усё залежыць ад таго, наколькі зладжаная праца партнёраў. Калі Прэзідэнт на месцы і адразу можа разгледзець дакументы — некалькі працоўных дзён. Калі гуманітарны груз перасякае мяжу, мытня пламбіруе машыны, праводзіць частковы агляд. Далей з усімі дакументамі транспарт адбывае да месца прызначэння. Прадстаўнік рэгіянальнай мытні прысутнічае пры адкрыцці машыны, перагрузцы на склад прадукцыі, пламбіруе яго. Замежныя партнёры могуць адпачываць у гэты момант ці нават ехаць дадому. Усю працу тут робяць беларускія грамадскія арганізацыі.



вырашаць праблемы, звязаныя з праходжаннем мяжы, размеркаваннем грузу, якія дакладна ведаюць усе законы і правілы нашай краіны. Беларускі партнёр сустракае груз на мяжы, дапамагае афармляць пісьмовую заяву, копіі сертыфікатаў. Дэпартамент рыхтуе дакументы. Яны накіроўваюцца Прэзідэнту краіны.

***— Ці можна неяк спрасціць працэдуру?***

— Для гэтага трэба папярэдне накіраваць на Беларусь дакладную спецыфікацыю грузу. Бываюць выпадкі, калі груз вызваляецца ад таможных пошлін загадзя. Але ж здараецца, што з-за недакладнасцей частка яго ўсё роўна павінна

Даводзіцца чуць ад людзей, якія некалі наведвалі Беларусь, быццам тут трэба стаяць на мяжы па 10 гадзін. Гэта не так. Нядаўна сумесна з Брэсцкай мытняй мы праводзілі семінар, каб яшчэ раз патлумачыць тым, хто аказвае гуманітарную дапамогу і хто яе прымае, правілы праходжання беларускай мяжы.

***— Ці існуе на Беларусі заканадаўчая база ў дачыненні да гуманітарнай дапамогі?***

— Толькі на ўзроўні падзаконных актаў. Гэта Палажэнне аб дэпартаменце, Пастанова Савета Міністраў. Была спроба правесці Закон аб гуманітарнай дапамозе, потым яго перарабілі ў праект Закона аб гуманітарнай дзейнасці. На сённяшні дзень прыняцце праекта прыпынена.

***— Ці аказвае Рэспубліка Беларусь каму-небудзь гуманітарную дапамогу?***

— Наколькі мне вядома, рэдка. Праўда, пасля гібелі атамахода "Курск" шэраг арганізацый падтрымалі сем'і беларусаў, загінуўшых у той катастрофе. Што да дзяржаўнай дапамогі, то ёю займаецца Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Усе памятаюць, што падчас вайны ў Югаславіі Беларусь накіравала ў гэтую краіну два канвоі з 38 грузавікоў, дзе былі прадукты харчавання і цёплая вопратка. Накіроўвалася дапамога і ў Таджыкістан, Дагестан.

***— Што звычайна ўваходзіць у гуманітарную дапамогу, адрасаваную ў нашу краіну?***

— Медыкаменты, будаўнічыя матэрыялы, медабсталяванне, аўтамабілі. За мяжой зразумелі, што вопратка для Беларусі — не галоўнае. І яе стала менш.

***— Ці існуе фінансавая дапамога?***

— Так. Грошы трапляюць на рахункі грамадскіх арганізацый з мэтавым прызначэннем, гэта значыць, на лячэнне канкрэтнага чалавека, на пэўнае будаўніцтва. І гэтыя сродкі ідуць строга па прызначэнні.

***— Ці здараецца, што гуманітарная дапамога прадаецца?***

— Я магу гарантаваць: пасля з'яўлення дэпартамента гуманітарная дапамога не прадаецца. Цяпер пра лекі. Існуе жорсткая забарона на пастаўку медыкаментаў нелячэбным установам (выключэнне — вітаміны). Толькі ведаючы канкрэтную бальніцу, куды накіроўваюцца лекі, мы даём дазвол грамадскай арганізацыі іх атрымаць. І ўсё правяраем. У аптэках лекі з гуманітарнай дапамогі не прадаюцца. Калі яе атрымлівае аб'яднанне Белфармацэя, то лекі распаўсюджваюцца па бясплатных рэцэптах сярод інвалідаў, дзяцей да 3-х гадоў і некаторых іншых катэгорый людзей.

Не будзе перабольшаннем сказаць, што каля 70 працэнтаў устаноў айчыннай сістэмы аховы здароўя жывуць за кошт гуманітарнай дапамогі. І гэта насцярожвае. Трэба выкарыстоўваць магчымасці больш эфектыўнай сацыяльнай палітыкі дзяржавы.

Гутарыла
**Алена СПАСЮК.**

## НАДЗЕЙНЫ ПРЫТУЛАК



У Гомелі адкрыўся гарадскі сацыяльна-педагагічны цэнтр, а пры ім сацыяльны прытулак. Тут забяспечана часовае пражыванне і выхаванне дзяцей ад 3 да 15 гадоў (на працягу паўгода). Першымі жыхарамі яго сталі падлеткі, якія трапілі ў экстрэмальныя жыццёвыя сітуацыі, — ахвяры злачынстваў, фізічнага і псіхічнага насілля, беспрытульныя або ў якіх бацькі алкаголікі, наркаманы, і тыя, што засталіся без апекі бацькоў.

НА ЗДЫМКУ: дырэктар прытулку для падлеткаў Уладзімір ДЗЕДАЎ са сваімі падапечнымі.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

# СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ МЕДЫКІ

**У Мінску прайшоў навучальны семінар для медыкаў, арганізаваны Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і нямецкім фондам "Дзеці Чарнобыля". Пра стасункі грамадскіх арганізацый расказвае загадчык адзела Беларускага таварыства дружбы Анатоль ШЫНКЕВІЧ.**

*— Анатоль Усцінавіч, як доўга ваша таварыства супрацоўнічае з Германіяй па рэалізацыі гэтага праекта?*

— На працягу сямі гадоў. За гэты тэрмін адтуль на Беларусь трапіла 120 новых сучасных апаратаў ультрагукавой дыягностыкі, кожны з якіх каштуе каля 50 тысяч долараў ЗША.

*— Як размеркавана гэтая апаратура?*

— Па ўсёй Беларусі: у раённыя, абласныя бальніцы, палікінікі.

*— Якая мэта семінараў?*

— Такія семінары сталі ўжо рэгулярнымі, праводзяцца чацвёрты год. Да нас з Германіі прыязджаюць урачы, якія на прыкладзе канкрэтных хворых вучаць беларускіх медыкаў больш дасканала дыягнаставаць захворванні, дапамагаюць павысіць узровень кваліфікацыі. Сёлета на семінары было 57 беларускіх урачоў з розных куткоў краіны, дзе працуюць перададзеныя немцамі апараты.

*— Ці працягвае паступаць гуманітарная дапамога ад фонду "Дзеці Чарнобыля"?*

— Толькі ў выглядзе запчастак да апаратаў і, безумоўна, навучання нашых спецыялістаў, што з'яўляецца перспектыўным і значным укладаннем сродкаў у будучыню Беларусі.

*— Якая ж прычына спынення гуманітарных паставак?*

— Германскі бок пачаў актыўна дапамагаць Украіне. Быццам туды яны накіравалі 40 апаратаў і цяпер хочуць ураўнаважыць сітуацыю. Але ж на Беларусі таксама існуюць бюракратычныя перашкоды, на якія скардзяцца немцы. Ды і наогул нам трэба яшчэ набраць шмат ачкоў, каб багатыя краіны захацелі распачаць ці працягваць гуманітарную дзейнасць на Беларусі.

**Алена СПАСЮК.**



СПАДЧЫНА

**Сёння мы працягваем размову пра вядомага майстра мастацкай фатаграфіі, краязнаўца і этнографа Яна Булгака, якую распачалі ў № 42 (2704) нашай газеты. Прапануем чытачам разам з групай сяброў фотаклуба "Мінск" прайсці жыццёвым шляхам нашага славутага земляка.**



# ДАРОГАМІ Яна БУЛГАКА





Для кожнага ўдзельніка гэтых вандровак імя Яна Булгака вядомае здаўна. Для нас яго творчасць была хрэстаматыйнай. У класіка сусветнай мастацкай фатаграфіі мы вучыліся. А яго захапленне этнаграфіяй стала для некаторых з нас падставай для выбару асабістага творчага шляху. Але ж, як усякі класік, ён заставаўся асобай загадкавай і далёкай. Паміж намі былі не толькі гістарычныя эпохі і падзеі, але і нейкая абыякавасць да імя Яна Булгака ў найноўшай гісторыі беларускай культуры. Верагодна, выклікана гэта і тым, што амаль усё, што захавалася ад творчай спадчыны майстра, знаходзілася ці ў Літве, ці ў Польшчы.

І раптам... Вялікай нечаканасцю для прыхільнікаў творчасці Яна Булгака стала знаходка, якую зрабіла загадчыца аддзела мастацтва Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Тамара Зайцава. У фондах бібліятэкі яна знайшла каля трыццаці фотаздымкаў, зробленых Янам Булгакам у Вільні. Гэта і стала падставай для арганізацыі фотавыставы "Віленская элегія", якая адбылася ў галерэі "NOVA" ў Мінску. Менавіта гэта падзея, а таксама набліжэнне 125-годдзя з дня нараджэння Яна Булгака выклікалі жаданне ў членаў фотаклуба "Мінск" пабываць у мясцінах, дзе жыў і працаваў фотамастак. Адна з паездак была зроблена на Навагрудчыну, яго радзіму.

*ЯН БУЛГАК — СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ. Ян Брунон Булгак нарадзіўся 6 кастрычніка 1876 года ў невялікім маёнтку ў вёсцы Асташына пад Навагрудкам. Сямейныя традыцыі (бацька паходзіў са славутага роду Сыракомляў), а таксама дух Міцкевіча на навагрудскай зямлі зрабілі моцны ўплыў на фарміраванне асобы будучага мастака.*

*У 11 год ён стаў вучнем класічнай гімназіі ў Вільні, якую скончыў у 1897 годзе. Магчыма, у гэтыя юнацкія гады і нарадзілася ў Яна Булгака бязмежная любоў да горада, з якім будзе звязана значная частка яго жыцця і творчасці.*

*У тым жа 1897 годзе Ян Булгак паступае на факультэт філасофіі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. Але ж абмежаванасць сродкаў прымусіла праз два гады пакінуць вучобу.*

*Далейшы шлях Яна Булгака быў на Міншчыну, у невялікую вёсачку Перасека, дзе знаходзіўся маёнтак, атрыманы Булгакам у спадчыну ад памёршай у 1893 годзе маці. Пачынаўся новы этап яго жыцця, непасрэдна звязаны з фатаграфічнай творчасцю. А на Навагрудчыну ён будзе прыязджаць яшчэ неаднаразова, каб зрабіць здымкі самога Навагрудка, возера Свіцязь і іншых мясцін наваколля. Бо, як пісаў пазней Я. Булгак у сваіх успамінах, "паўжыцця прысвяціў я назіранню прыгажосці гэтай зямлі і ўвекавечванню яе на фотаздымках".*

Удзельнікі экспедыцыі (нагадаю, што гэта старэйшыя члены фотаклуба "Мінск" Віктар Бутра, Юрый Васільеў, Уладзімір Няхайчык і аўтар гэтага артыкула) таксама вырашылі пранікнуцца духам гэтай зямлі, дакрануцца да яе гісторыі, адчуць прыгажосць краю. Мы пабывалі ў Міры і Карэлічах, у ваколіцах Свіцязі, у Валеўцах і Навагрудку, Любчы і Шчорсах. Гэта была не проста экскурсія, а творчая праца, падчас якой мы імкнуліся знайсці сваё бачанне таго, што калісьці здымаў Ян Булгак. У Навагрудку нас гасцінна прынялі ў Доме-музеі Адама Міцкевіча. Тут мы знайшлі невялічкую экспазіцыю, прысвечаную Яну Булгаку. Яе прысутнасць у літаратурным музеі не выпадковая. Ёсць шмат агульнага ў лёсе гэтых людзей. Абодва нарадзіліся на навагрудскай зямлі, услаўлі яе, няхай і рознымі сродкамі, і абодва былі звязаны лёсам з Беларуссю, Літвой і Польшчай.

Больш разгорнутая экспазіцыя знаходзіцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі, у фондах якога захоўваецца невялікая колькасць аўтарскіх прац фотамастака. Але здзівіла адсутнасць дакладных звестак пра Асташына, пра лёс дома, дзе нарадзіўся Ян Булгак. Як сказалі нам, "ногі не дайшлі".

Праз некаторы час мы былі ў Асташыне. Вялікая вёска, дамы ўздоўж адной вуліцы. За вёскай дарога вывела нас да ланцужка прыгожых сажалак і далей — да вадзянога млына, якім валодае мясцовы прадпрымальнік Пятро Сільвановіч. Рабочыя млына, з якімі мы гутарылі, нічога пра Булгака не ведалі, але ж, як толькі мы паказалі ім ксеракопію здымка сядзібы Булгака, зробленага ім каля 1914 года, то ўсе ў адзін голас заявілі: "Дык гэта ж наша школа". І паказалі на прыгорак, дзе ў атачэнні старога парку бялеў аднапавярховы будынак. Праз мост ля млына рушылі мы па полю да сядзібы, яшчэ не ўпэўненыя, што дасягнулі мэты нашага падарожжа. Крыты шыферам дах не адпавядаў даху на фотаздымку. Але ж фасад... Яго немагчыма было не пазнаць. Будынак адносна добра захаваўся, бо і сёння ён жылы — тут месціцца Асташынская базавая школа. У неблагім стане і старажытны парк. Безумоўна, гады бяруць сваё, але стаяць яшчэ шарэнгі ліпавых алей вакол дома і даўно не кошаных газонаў (дзякуй Богу, не засаджаных бульбай). І горда нясуць свае кроны-шатры магутныя лістоўніцы, якія таксама можна ўбачыць на старой фатаграфіі.

Змешаныя пачуцці выклікала наша знаходка. З аднаго боку, вось яно — радавое гняздо нашага славутага земляка, ганарыцца якім павінен кожны культурны чалавек. З другога, ніхто тут не ведае, нават у школе, пра гісторыю будынка. Але была ўпэўненасць, што яшчэ не позна нешта зрабіць, каб гэты гістарычны куточак стаў шырокавядомым у Беларусі і за яе межамі. З такімі думкамі па старой дарозе, што вядзе ад маёнтка да бальшака, мы пакідалі Асташына. Побач крочыў цень Яна Булгака, які менавіта гэтай дарогай амаль сто гадоў таму ад'язджаў у Перасеку.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

*(Працяг будзе).*

НА ЗДЫМКАХ: Ян БУЛГАК; пад'язная дарога, што вядзе ад бальшака да былой сядзібы Яна Булгака; дом, дзе нарадзіўся фотамайстар; "Гандлёвая плошча ў Навагрудку" — здымак Яна Булгака; старыя ліпавыя алеі акружаюць дом.

**Фота аўтара.**





## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ



### БЕЛАРУСЬ—БАЛГАРЫЯ

У Мінску ў Доме дружбы адбылося падпісанне дамовы аб сумеснай дзейнасці і супрацоўніцтве паміж міжнароднай грамадскай арганізацыяй "Асацыяцыя "Святло Радзімы" (Беларусь) і фондам "Славяне" (Балгарыя).

Дамову падпісалі кіраўнікі гэтых аргнізацый Аляксандр БІЛЫК і Захары ЗАХАРЫЕЎ.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

### ЭСТОНІЯ

7 снежня мінулага года была занесена ў рэгістр некамерцыйных аб'яднанняў Эстоніі Нарвская беларуская нацыянальна-культурная суполка "Сябры".

У гадавіну суполкі мы вырашылі нагадаць жыхарам Нарвы аб вядомым беларусе — Францішку Скарыне. У гонар 510-й гадавіны з дня нараджэння вялікага першадрукара і асветніка па мясцовым радыё была праведзена віктарына. І высветлілася, што гэта імя добра вядомае ў Нарве не толькі беларусам.

У ПК "Энергетык" прайшла выстава ксеракопій яго гравюр па дрэву. Там жа былі прадстаўлены альбомы, юбілейныя календары і медаль, зроблены на Беларусі ў гонар 500-годдзя Ф. Скарыны. Побач размясцілася выстава рукадзельных вырабаў умельцаў суполкі "Сябры".

Акрамя гэтага разам з землякамі з суполкі "БЭЗ" горада Ісхві наладзілі святкаванне ў гонар свайго вялікага земляка. На гэта мерапрыемства былі запрошаны госці з Нарвскага ўкраінскага зямляцтва, з якім "Сябры" ўжо праводзілі сумесныя мерапрыемствы. Сіламі трох суполак быў падрыхтаваны невялікі канцэрт.

І як заўсёды, у суполцы "Сябры" ўсіх імяніннікаў месяца павіншавалі кветкамі і падарункамі, выканалі ў іх гонар віншавальную песню.

На свяце прысутнічала вядучая беларускай перадачы "Бацькаўшчына" на эстонскім радыё Ніна Савінава. Акрамя прыгожых кветак і музычных касет ад Ніны, мы пачулі шмат добрых слоў і пажаданняў. На хвалях "Бацькаўшчыны" не адзін раз жыхарам Эстоніі Ніна давала інфармацыю аб жыцці "Сяброў".

**Мікалай АНІСКЕВІЧ,**
**сакратар Нарвскай суполкі "Сябры".**

**P. S. Сардэчна віншуем з юбілеем цудоўную жанчыну — Маргарыту АСТРАВУМАВУ. Міру і дабра ў Вашым доме, Маргарыта, і ў Вашай суполцы "БЭЗ" жадаюць нарвскія "Сябры".**

## СТАСУНКІ



● **Аляксандр ХІТРОЎ.**

Хлопцы і дзяўчаты са шведскага горада Мельбі пабывалі ў гасцях у вучняў віцебскай гімназіі № 2. Тут яны прысутнічалі на ўроках, азнаёміліся з навучальна-выхаваўчым працэсам у гімназіі, здзейснілі экскурсіі на станкабудаўнічы завод "Вістан" і прадпрыемства абутку "Марко", пабывалі ў дзіцячым садзе № 105.

Паміж аднагодкамі усталяваліся цёплыя сяброўскія адносіны. Цяпер віцебскія школьнікі збіраюцца ў госці да шведскіх сяброў.

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ПАЛЯКІ ВАЧЫМА БЕЛАРУСАЎ

### З ГІСТОРЫІ ФАРМІРАВАННЯ ЭТНІЧНЫХ СТЭРЭАТЫПАЎ

● **Міхась КОШАЛЕЎ,** *кандыдат гістарычных навук, (Мінск).*

Спакон веку кожнаму чалавеку ўласціва было ацэньваць людзей, што жылі побач з ім, зыходзячы са сваёй меркі, уласных крытэрыяў. Таму, зразумела, часцей за ўсё гэтыя ацэнкі мелі значную долю суб'ектыўнасці. Спрадвеку людзі іншага роду-племені выклікалі далёка не заўсёды станоўчыя эмоцыі. Іх гаворка і звычаі былі не такімі, чужымі, незразумелымі. Паводзіны і ўчынкі здаваліся дзіўнымі і непрадказальнымі, што нараджала насцярожанасць.

Суб'ектыўнасць поглядаў на людзей іншай нацыі захоўваецца і ў наш час. Гэта абумоўлена шэрагам фактараў, і не ў апошнюю чаргу тым цяжарам стэрэатыпаў, якія складаюцца на працягу многіх гадоў. У гэтым няма нічога надзвычайнага. Бо ўсе народы розныя. І ва ўсе часы любы народ, усведамляючы сябе супольнасцю таго ці іншага ўзроўню, інстынктыўна імкнуўся вылучыць рысы, характэрныя менавіта яму, акцэнтуючы пры гэтым увагу ў першую чаргу на адрозненнях, і тым самым міжволі прыходзіў да супрацьпастаўлення: "мы" — "яны", "свае" — "чужыя". Такім чынам, на сцэну непазбежна выступаў крытычны элемент, уласцівы кожнаму з бакоў, што мелі адпаведныя ўзаемадачыненні. Пры гэтым не сакрэт, што пэўныя рысы адной этнічнай супольнасці, якія самой успрымаліся ці ўспрымаюцца як безумоўна "станоўчыя", "пазітыўныя", суседзямі нярэдка разглядаюцца як часткова ці цалкам "адмоўныя", "негатыўныя". Гэта адбываецца нават у тым выпадку, калі адрозненні ў ладзе жыцця, традыцыях, культуры, мове, рэлігіі і іншым могуць здавацца нам, на першы погляд, дробнымі і неістотнымі. Вядома і тое, што ацэнка іншага народа не застаецца аднолькавай, нязменнай па часе. Пад уплывам шэрагу гістарычных, сацыяльна-палітычных, эканамічных, ідэалагічных ды іншых фактараў яна спакваля эвалюцыяніруе, набывае новыя рысы і адценні, можа нават змяняцца ледзь не на дыяметральна процілеглую.

Якія ж фактары мелі непасрэдны ўплыў на фарміраванне адносін беларусаў да іншых народаў? Пры ўсёй разнастайнасці думак, поглядаў і ацэнак амаль усе даследчыкі адзначалі ўласцівую беларусам талерантнасць у адносінах да мовы, традыцый, звычак, іншых асаблівасцей нацый, што бралі ўдзел у гістарычных лёсах беларускіх земляў. Пры гэтым, з аднаго боку, адбывалася пэўнае ўзбагачэнне ментальнасці беларусаў, а з другога — размыванне важных рысаў духоўнага аблічча народа.

Шмат у чым гэтая з'ява і абумовіла разнастайнасць у ацэнцы якасцей прадстаўнікоў іншых этнасаў, з якімі ў адпаведныя перыяды найбольш актыўна сутыкаліся беларусы. Кожны новы паварот гісторыі, канкрэтныя абставіны, у якіх адбывалася фарміраванне беларускай народнасці і нацыі, пакідаў на іх свой адбітак. Вынікам была паланізацыя і русіфікацыя часткі беларускага насельніцтва, перадусім менавіта тых слаёў, якія вызначаюць інтэлектуальнае аблічча нацыі, што адбівалася на поглядах беларусаў на іншыя народы. У гэтым плане вялікую цікавасць маюць помнікі этнаарыентаванага фальклору мінулых стагоддзяў, якія з'яўляюцца найбольш рэпрэзентатыўнымі крыніцамі пры вывучэнні бачання простымі беларусамі іншых народаў.

Стэрэатыпы адносін да іншаэтнічных груп насельніцтва Беларусі, што гістарычна склаліся ў беларусаў да XIX — пачатку XX стагоддзяў, разглежаны беларускім даследчыкам П. Цярашковічам, які зрабіў цікавую спробу аналізу 200 зафіксаваных у зборніках беларускага фальклору прыказак і прымавак, звязаных з ацэнкай якасцей розных народаў. На падставе гэтага матэрыялу ён зрабіў выснову, што палякі ў цэлым не з'яўляліся ў народнай свядомасці беларусаў XIX стагоддзя "кепскім народам". (Цікава адзначыць, што найбольш станоўчая ацэнка, мяркуючы па фальклорных матэрыялах, прыпадае на татар, якія пасяліліся ў Беларусі з XIV стагоддзя. Некаторыя выказванні наконт іх, як адзначаецца ў даследаванні, уяўляюць сабой рэдкія, калі не выключныя, прыклады пазітыўных этнічных адносін: "Татар — добры гаспадар" і інш.).

Што тычыцца больш шырокага малюнку ўспрымання вобраза паляка ў народнай свядомасці мінулага, то тут мы наблізіліся да другога пытання — што ў разуменні беларуса значыла само слова "паляк"? Пры разглядзе яго таксама не абысціся без кароткага экскурсу ў гісторыю. Шматканфесійнасць беларускага грамадства, якая склалася на працягу стагоддзяў, давала ў барацьбе паміж Варшавай і Масквой за валоданне беларускімі землямі магчымасць спробаў выкарыстання рэлігіі ў якасці этнавызначальнага фактара. Аб'ектыўна пад лозунгам: "Праваслаўны — значыць, рускі, католік — паляк" салідарызаваліся і польскі Касцёл, і Руская праваслаўная царква.

Характэрна, што з прычыны адзначанага вышэй стану размытасці нацыянальнай самасвядомасці гэтая гульня з вызначэннем нацыянальнасці па канфесійнай прыналежнасці не выклікала ў беларусаў асаблівага пратэсту паводле прынцыпу: "Хоць гаршком называй — толькі ў печку не стаўляй". У той жа час просты беларус, адгукаючыся і на "паляка", і на "рускага", на практыцы выразна вылучаў сябе з ліку і тых і другіх. Праўда і тое, што ў значнай часткі беларускага грамадства, асабліва прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя, этнічная самасвядомасць паступова змянялася. Яны пачыналі лічыць сябе палякамі, захоўваючы ў той ці іншай ступені элементы мясцовага ліцвінскага (беларускага) патрыятызму.

Аднак асабліва выразнай была ацэнка простым людам не гэтай катэгорыі "палякаў" мясцовага паходжання, а прышлага элемента — этнічных палякаў, што паходзілі непасрэдна з земляў Кароны. У першую чаргу, гэта былі мазурскія перасяленцы, чыншавая шляхта, гэтак званыя "буднікі", што займаліся лясными промысламі на Палессі, выраблялі вугаль на экспарт у адмысловых лясных будах. Гэтыя польскія групы цесна кантактавалі з мясцовым насельніцтвам, але захоўвалі сваю этнічную адметнасць, якая і вылучала іх, стварала глебу для крытычных ацэнак.

Якім жа гэты паляк выглядаў у вачах беларуса XIX стагоддзя? Тут ізноў жа можна абапірацца на думкі П. Церашковіча. Як ужо адзначалася вышэй, увогуле паляк успрымаўся беларусам добразычліва, хаця і досыць іранічна. У ім, напрыклад, адзначалася смеласць, не пазбаўленая задзірлівасці адвага мазураў-"буднікаў" ("мазуру біцца, як людзям хлеб з маслам з'есці", "мазур, каб і смерць угледзеў, то не ўтоіцца"), пачуццё ўласнай годнасці, імкненне паказаць сябе лепшым чынам, схаваць ад іншых свае сапраўдныя матэрыяльныя становішча ("варшавяк, як галодны, то свішча"). У той жа час народнае меркаванне вылучала і такую рысу, як схільнасць да пустога баўлення часу ("мазур то адно да гуляння зух"). Пры гэтым паляк-мазур выглядаў у вачах мясцовага насельніцтва хутчэй за ўсё смешным ("гэтыя мазуры ўсё то на кпіны зроблены").

Інакш, са значна большай ступенню крытычнасці выглядала агульная ацэнка паляка ў тым выпадку, калі ён разглядаўся з сацыяльна-эканамічнага пункту гледжання, г. зн. як памешчык, эксплуататар, прадстаўнік адміністрацыі ("шт пан, то сабака", "з панамі знацца — бяды набрацца", "па чым пазнаць ляха? — па тым, што на чэраве бляха", "мудзер лях па шкодзе"). Як бачым, тут не вылучаюцца спецыфічныя этнічныя рысы нетутэйшага паляка, а крайне негатыўна ацэньваецца яго сацыяльна-саслоўная прыналежнасць ("наш пан, а ваш гаспадзін — чорт адзін"). Аб гэтым сведчаць і традыцыйна іранічныя адносіны селяніна да малазямельнай апалячанай шляхты, якая нярэдка амаль што нічым, апроч гонару, не адрознівалася ад селяніна ("пан, што на сапоме спіць і зубамі блохі б'е", "усё паны ды паны, а торбу з хлебам не палажы: бо і хлеб з'ядуць, і торбу ўкрадуць", "вялікі панок, ды малы дварок").

Такім чынам, можна канстатаваць, што ў канцы XIX стагоддзя, нягледзячы на абставіны, якія не спрыялі нацыянальнай кансалідацыі беларусаў, асэнсаванне сваёй супольнасці, адметнасці бясспрэчна існавала і яскрава праяўлялася. На ўзроўні масавага побытавага ўспрымання склалася даволі развітая сістэма этнічных стэрэатыпаў, якая дазваляла дыстанцыраваць сябе ад прадстаўнікоў іншанацыянальных груп, у нашым выпадку — палякаў.

**Працяг будзе.**



ПАВОДЛЕ КНІГІ "ЛІСТЫ З ХЕЛЬСІНКІ" *(Пачатак у № № 48, 49)*

Маляваў Васіль БЫКАЎ

## ВОДГАЛАС



*На фінскім Купальлі.*



*Госьць з радзімы.*



*Ня трэба прылашчваць ні вутак, ні людзей...*



*Хельсінкі. Універсітэт...*
*— Што ёсьць сацрэалізм?*

Рыгор БАРАДУЛІН

# ЛІСТЫ ЗЬ МЕНСКУ

### ЛІСТ СЁМЫ

Час зьнянацку зьмесьціцца
у зярнятку
І засьне ў настылай баразьне,
Каб прачнуцца руньню па вясьне,
Даганяць сябе
Пачаць спачатку.

Сьвету
Цесна думаць у зярнятку —
У вечнасьці ў маленькім кулачку.
Ціха йскрыпка жаліцца смычку.
Хоча гук сябе
Пачуць спачатку.

Час аднойчы
Зьмесьціцца ў зярнятку...

*27 сьнежаня 1998 г.*

### ЛІСТ ВОСЬМЫ

Чалавечае сэрца
Меншае за гняздо салаўя,
Яшчэ меншае сэрца настрою.
Ды ў іх,
Пачынаючы ад позірку і кап'я,
Нацэлена зброя
Усіх часін,
Усіх народаў,
І зброя заклёнаў і кпін
Да ўзьнёслых одаў.
Ужо зьнішчуць, здаецца,
А сэрца б'ецца
Наўздрыж.
Як салаўіная песьня
Аб крыж...

*4 студзеня 1999 г.*

### ЛІСТ ДЗЕВЯТЫ

Памяць —
Цямніца суровая —
Вязьняў не адпускае,
У хмары іх замуроўвае,
Як у жывыя скалы.

Успаміны —
Вязьні жывучыя —
Помняць сьцяжыну на волю,
Там,
Дзе над соннай кручаю
Радасць старэе ўдавою.

Мроіцца —
Долу бразнулі
Усе ланцугі,
Каб разьбіцца.
Поўніцца ціхімі вязьнямі,
Покуль ня рухне,
Цямніца.

*11 студзеня 1999 г.*

### ЛІСТ ДЗЕСЯТЫ

На радзіме расьце трава
Няпрытуленага блуканьня.
На радзіме ня сьпіць сава
Дакарання і дараваньня.

На чужыне цьвіце язьмін
Перазяблага захапленьня.
На чужыне жыве ўспамін
Незаўважанага імгненьня.

Птушка смутку ў смузе растае.
Воўк зьняверу ў працяглась вые.
На радзіме чужыя — свае,
На чужыне свае — чужыя...

*11 лютага 1999 г.*

### ЛІСТ АДЗІНАЦЦАТЫ

Хапае на гэтым сьвеце сьвятла,
І цемры хапае.
І ўсіх нас адсюль
Вымятае мятла
Сьляпая.

Пабыць бы яшчэ і яшчэ
На сьвятле.
Хай цемра чакае.
Мы ведаем, хто
Той смале, што ў катле,
Патакае.

Ды клопат даскуб
Дзён вясёлых стагі
У хаўрусе зь вякамі.
Паціху самота
Да змоўклай тугі
Звыкае,
Звыкае,
Звыкае...

*17 лютага 1999 г.*

### ЛІСТ ДВАНАЦЦАТЫ

На зямлі, дзе продкі спачываюць,
Сьцены памагаюць у бядзе.
Крумкачы
І тыя спачуваюць.
Сьцежка кожная дамоў вядзе.

І сівеюць, як сады, дакоры.
Каб труною стаць,
Сасна расьце.
Сына блуднага шукаюць зоры
На далёкай ад кута вярсьце.

Вечны небасхіл трымае круча.
Перапёлка смутку гнёзды ўе.
Адчуваюць крэўнікі балюча
Забыцьцё тваё й гады свае.

Сьнег забраць свой
Зімы забываюць.
Вёснам рупіць ашукаць свой сон.
На зямлі, дзе продкі спачываюць,
Дзе б ні быў,
Жывеш да скону дзён...

*12 сакавіка 1999 г.*

### ЛІСТ ТРЫНАЦЦАТЫ

Памяць — дзікі зьвер,
Што чуе гукі,
Сочыць цемру й маладзіць сьляды
У тваё забытыя гады,
Дзе, здаецца, ня было прынукі.

Памяць — дзікі зьвер,
Яго нікому
Ня ўдалося прыручыць нідзе.
Зьвер, што ціхім назіркам ідзе
За табой,
Пацьвельваючы стому.

Восені пазной лісу рудую
Можа, й ня перахітрыць яму.
Памяць — дзікі зьвер,
Відаць, таму
Ён усіх прыручаных шкадуе...

*27 сакавіка 1999 г.*

### ЛІСТ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

Упала зь неба хмурынка,
Як вейка.
Бо загадала душа на сьвятло.
— Хрыстос ўваскрос! —
Кажа ўсім салавейка.
Хрыстос уваскрос —
Вялічка прыйшло.

Маўчаў, чакаў,
Каб абнашчыцца сьпевам,
І дачакаўся сьвятога дня.
Хрыстос уваскрос —
Вольна птушкам і дрэвам.
Хрыстос уваскрос —
Ажыла дабрыня.

Уваскрасае вера й надзея.
Сьвятлее тварам
І думкамі лёс.
Смуга радзее, сьвет маладзее.
Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос!

*11 красавіка 1999 г.*

### ЛІСТ ПЯТНАЦЦАТЫ

Блізка гучыць
Родны голас здалёку,
Падаючы самоце руку.
Аж затуманіцца хочацца воку,
Як на зьняверым скразьняку.

У галасах
Ён згубіцца ня можа,
Голас,
Які твой гадуе настрой.
А ці з выгнаньня, ці з падарожжа
Ён прылятацьме смутнай парой.

Стомленасьць,
Як памяркоўная пані,
Ціха ступае па гулкай жарсьцьве.
Голас жыве —
І жыве спадзяваньне.
Голас жыве —
І трывога жыве...

*12 красавіка 1999 г.*

Маляваў Васіль БЫКАЎ

## ВОДГАЛАС



*Дубы ў Мукуле.*




*Візіт маладой дамы.*



*Журналісты з Італіі...*

**ДЭБЮТ**

# ФУТУРАДЫЗАЙН ЯК СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ



Ці гулялі вы калі-небудзь на камп'ютэры? Прыгожыя касмічныя гульні... А ці ведаеце, што, акрамя хлопцаў з чырвонымі вачыма, якія ў гэта гуляюць, ёсць яшчэ і тыя, з каго гэта ўсё пачынаецца? Я маю на ўвазе дызайнераў. Але кола іх дзейнасці скіравана не толькі на гульні, а яшчэ і на разнастайныя фільмы, часопісы і гэтак далей.

Уявіце сабе чалавека, які займаецца... дзіцячай справай: малюе касмічныя караблі. А гэта не такая ўжо і дзіцячая справа. Канешне, трэба бачыць розніцу паміж "малюначкамі" і футурадызайнам. Але без гэтых вось "малюначкаў" не было б такой прыгожай працы (так бывае: прыемны занятак перарастае ў працу).

Ёсць тры ўмовы, без якіх нельга стаць дызайнерам: трэба ўмець маляваць, захапляцца фантастыкай і мець добрую фантазію, бо кожны карабель — гэта свая, заўсёды новая гісторыя. Каб стварыць нешта адметнае, дызайнер павінен прадугледзець магчымы шлях развіцця тэхнікі і эканомікі будучыні. Калі гэта будзе знішчальнік — з кім і як ён ваяваў бы, а калі будучы карабель-буксір, то куды і якія грузы ён вазіў бы.

Наогул пра футурадызайн можна доўга расказваць, і я буду вельмі задаволены, калі вы знайшлі для сябе нешта цікавае.

*А жадаеце абмяняцца меркаваннямі — высылайце лісты на адрас: г. Мінск, праспект Пушкіна, д. 8, кв. 181. "Футурклуб".*

**Яраслаў КВАСАВЕЦ,**
**васьмікласнік.**





*Малюнкі* **Дзмітрыя КАЗЛОВА.**

## КРЫЖАВАНКА АД Ірыны БЕКІШ

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 9. Службовая асоба, надзеленая ўрадам якімі-небудзь спецыяльнымі паўнамоцтвамі. 10. Тэорыя і практыка ўкладання слоўнікаў. 11. Грашовае ўзнагароджанне, якое атрымліваюць аўтары за свае творы. 14. Сум, туга. 15. Невялікая круглая пасудзіна з ручкай для піцця вады. 16. Значная сума грошай. 21. Установа, месца, дзе захоўваюцца старадаўнія пісьмовыя помнікі: пастановы, дагаворы. 22. Той, хто займаецца магіяй, чарадзей, вяшчун, знахар. 23. Урачыстая царкоўная цырымонія ўскладання кароны на манарха, які ўступіў на трон. 24. Верхняя частка будынка, якая пакрывае яго. 25. Круглая пляцоўка ў цырку для выступленняў. 30. Пастух, які пасе авечы статак. 31. Месца гандлю, рынак. 32. Лятучая мыш. 33. Спектакль з танцаў і мімічных рухаў, якія суправаджаюцца музыкай. 40. Вялікі клавішны музычны інструмент з мноствам драўляных і металічных труб, у якія мяхамі нагнятаецца паветра. 41. Удушлівы газ, які ўтвараецца пры згаранні вугалю. 42. Адзін з відаў гасцініцы на курорце з месцам для стаянкі аўтамабіляў і іншымі выгодамі. 43. Рэальная або легендарная падзея, ад якой вядзецца летазлічэнне. 44. Спецыяльная вайсковая група. 49. Працяжны перарывісты гул. 50. Вадкасць, насычаная рэчывамі таго, што ў ёй варылася. 51. Свабоднае месца; абшар. 56. Доктар, які лечыць пухліны. 57. Доўгая вяроўка з плёткай на канцы для лоўлі жывёл. 58. Наведванне, пераважна афіцыяльнае або ўрачэбнае. 59. Частка чаго-небудзь. 60. Паходжанне, гісторыя ўзнікнення і развіцця чаго-небудзь. 61. Высокая тэмпература. 62. Ударны музычны інструмент у выглядзе вобада, абцягнутага скурай, са званочкамі па краях. 63. Надта маленькі крывяносны сасуд. 68. Чалавек, які жыве ў Літве. 69. Рэчы, упакаваныя для перавозкі поездам, самалётам. 70. Імгненная светлая ўспышка на небасхіле вечарам, ноччу. 75. Грошы, якія выдаюцца наперад у лік зарплаты. 76. Раскоша, форс, элегантнасць. 77. Адна з форм адпачынку вясковай моладзі ў святочныя вечары — гульні з музыкай, танцамі. 78. Сістэма дзяржаўных або грамадскіх парадкаў. 79. Друкаванае або вуснае паведамленне аб чым-небудзь, якое даводзіцца да ўсеагульнага паведамлення. 84. Лісток на чым-небудзь з указаннем назвы тавару, цаны, колькасці. 85. Халодны паўночны пранізлівы вецер. 86. Адпраўка чаго-небудзь уплаў па цячэнню ракі. 87. Доказ, гарантыя чаго-небудзь. 94. Перыядычнае паніжэнне ўзроўню вады ў адкрытым моры. 95. Па рэлігійных уяўленнях, вярхоўная істота, якая стварыла свет і кіруе ім. 96. Будова, састаў, арганізацыя чаго-небудзь. 97. Інструмент для свідравання шчылін пры даследаванні глебы, горных парод. 98. Паглыбленае ў зямлю памяшканне для захавання чаго-небудзь. 103. Склад зброі і ваеннай амуніцыі. 104. Дакладна ўстаноўленая расцэнка на тавары або памер аплаты працы і паслуг. 105. Група суднаў, якія ідуць адно за адным. 106. Вузкая градка, засаджаная чым-небудзь. 107. Сельскагаспадарчая машына, прыстасаваная для копкі бульбы. 108. Прэпарат для лячэбных прывівак супраць заразных хвароб.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Сумка, торба. 2. Напоўненае вадой штучнае рэчышча. 3. Пасільны ўклад у якую-небудзь агульную справу. 4. Выдатны гімнаст, звычайна цыркавы. 5. Машынная канструкцыя, якая складаецца з рухавіка, перадатачных механізмаў і рабочых органаў (напрыклад, самаходны камбайн). 6. Мелкаводны марскі заліў, звычайна ў вусцях рэк. 7. Падвесная сетка для сну, адпачынку на свежым паветры. 8. Вузкая палоска глебы, узараная плугам, а таксама паглыбленне, якое ўтварылася на яе месцы. 12. Нацягнутая на раму белая тканіна для дэманстрацыі фільмаў. 13. Нешта падманлівае, уяўнае. 17. Мінерал чырвонага колеру, а таксама фарба з яго. 18. Наёмны сельскагаспадарчы рабочы ў памешчыка або кулака, батрак. 19. Чалавек, які працуе ў мылаварнай прамысловасці. 20. Група музыкантаў для сумеснага выканання музычных твораў на розных інструментах. 26. У спартыўных гульнях: перадача мяча іншаму іграку сваёй каманды. 27. Міфічная істота дзіцячага фальклору, якая бае байкі. 28. Рыбалоўная прылада: нерат з двума крыламі. 29. Адзінка вымярэння сілы якой-небудзь з'явы. 34. Паляванне ў недазволеным месцы ў забароненыя тэрміны або забароненымі спосабамі. 35. Цвёрды і бліскучы камень з групы сілікатаў. 36. Акружэнне ўмацаванага месца з мэтай яго захопу. 37. Падвяленая прасаваная трава, якая захоўваецца ў сховішчах на корм жывёле. 38. Дарога, якая злучае важныя аб'екты: паветраны, водны шлях. 39. Нядбайнае і бесталковае вядзенне якой-небудзь справы. 45. Замена назвы якога-небудзь прадмета назвай другога прадмета на аснове іх сумежнасці. 46. Лёгкі двухколы аднаконны экіпаж з адным сядзеннем без козлаў. 47. Група астравоў, размешчаных блізка адзін да аднаго. 48. Водная расліна, у якой адсутнічае выразнае чляненне на корань, сцябло і лісце. 52. У некаторых капіталістычных краінах: партовы рабочы. 53. Конусападобны канал для рэгулявання патоку вадкасцей ці газаў. 54. Раменная плётка з кароткай ручкай, нагайка. 55. Адзін з відаў праверачных іспытаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. 64. Агульны лад жыцця, паўсядзённае жыццё. 65. Будыніна, звычайна дашчаная, для часовага жылля. 66. Накладныя валасы. 67. Памяшканне для стаянкі і рамонту самалётаў. 71. Бясплановасць, стыхійнасць. 72. Навучальнае паўгоддзе ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. 73. Выва: тавараў за мяжу. 74. Усякі матэрыял для абмотвання чаго-небудзь. 80. Паўсядзённае жыццё з устаноўленымі правіламі, звычаямі, прывычкамі. 81. Плецены раменны бізун. 82. Прыгожая мясцовасць; умовы, пры якіх можна жыць шчасліва і бестурботна. 83. Вада, якая закіпела. 88. Асоба, якой што-небудзь пасылаецца па пошце. 89. Лёгкая лодка (з дрэва). 90. Асоба, якой даручана кіраўніцтва, нагляд за кім-небудзь. 91. Пасведчанне аб заканчэнні сярэдняй школы. 92. Моцная бура. 93. Круглы доўгі кавалак драўніны, адрэзаны ад ствала вялікага дрэва. 99. Аднагадовая сельскагаспадарчая культура, якая высяваецца і прарастае вясной і дае ўраджай восенню гэтага ж года. 100. Верхняя вопратка з аўчын. 101. Няпраўда, выдумка, хлусня. 102. Цэгла-сырэц з сумесі гліны, гною і сечанай саломы.



«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ.** Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 678 экз.
Зак. 3176.
Падпісана да друку 11.12.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).